 

Ігар МАЦЯШОЎ

# ДЫК ШТО Ж ЗДАРЫЛАСЯ ЛЯ КРУГЛЯНСКАГА МОСТА?

## АБ НОВАЙ АПОВЕСЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

НОВАЯ АПОВЕСЦЬ Васіля Быкава «Круглянскі мост» мае так званую кальцавую кампазіцыю. Яна пачынаецца і заканчваецца адной і той жа карцінай: васемнаццацігадовы партызан Сцёпка Тоўкач, які страляў з аўтамата ў старшага аператыўна-падрыўной групы Брытвіна, сядзіць пад арыштам у бульбяной яме, чакаючы прыезду камісара, які павінен ва ўсім разабрацца. «Не можа таго быць, каб не зразумеў. Хай едзе камісар» — такія заключныя словы аповесці, у якіх не толькі Сцёпкавы думкі, але і поўнае аўтарскае спачуванне герою, упэўненасць пісьменніка, што і невядомы камісар, і перш за ўсё, зразумела, сам чытач, «разбяруцца» ў тым, што здарылася, іменна так, як хочацца аўтару.

У думках ідучы за аўтарскім апісаннем двух злашчасных сутак з партызанскага Сцёпкавага жыцця, мы разам са Сцёпкам радуемся, калі Маслакоў прапануе яму ўдзельнічаць у сапраўднай баявой справе — знішчэнні драўлянага моста праз рэчку каля мястэчка Кругляны, і разам са Сцёпкам перажываем разлад у групе, і гібель Маслакова, і прадузята ўслухоўваемся ў дзіўныя разважанні былога камандзіра роты Брытвіна, і нас насцярожваюць яго паводзіны, якія не заўсёды адразу растлумачыш, і болем пранізвае нас смерць пятнаццацігадовага Міці, сына паліцая, смерць нечаканая і дарэмная. І калі ўспомніць, як цяжка было Сцёпку ў дашчэнту стаптаных ботах цягнуць па ярах і балотах цяжкую каністру з бензінам, як у самае сэрца ўдарыла яго гібель Маслакова і Міці, якім шкурніцкім здалося яму ўсё, што гаварылі і рабілі на яго вачах Брытвін і Даніла Шпак, калі дадаць да гэтага і страшэнную стому, і голад, і прастудныя скулы, што мучылі Сцёпку, і выпітыя паўшклянкі самагону, дык з пункту гледжання псіхалагічнай верагоднасці Сцёпкава злачынства здасца не такім ужо нечаканым. Камісар, які павінен аб'яднаць у сваёй асобе і абвінаваўцу і абаронцу, несумненна, знойдзе ў Сцёпкавай «справе» акалічнасці, якія змякчаюць яго віну.

Аднак юрыдычны бок пытання гэтак жа мала звязаны з ідэяй твора, як і яго асноўны сюжэт— знішчэнне Круглянскага моста. І дыверсія на мосце, і юрыдычны казус, які завяршыў яе, існуюць у аповесці не як жыццёвыя з'явы, што дапамагаюць раскрыць характары герояў, якія патрабуюць свайго асэнсавання і вытлумачэння, а як прычына для выказвання пэўнай маральна-этычнай канцэпцыі. Канцэпцыя гэта, калі ўзяць яе ў «чыстым», так сказаць, выглядзе, па-за сувяззю са складанай рэальнасцю канкрэтных абставін, такая ж простая і прывабная, як біблейскае «не забі». Яна патрабуе, каб і на вайне чалавек жыў сумленна, не адступаўся ад прынцыпаў, не хаваўся за чужую спіну, не рабіў подласцей, не шкурнічаў, не рызыкаваў чужымі жыццямі дзеля захавання ўласнага. Зразумела, пярэчыць супраць такой маральнай праграмы было б у вышэйшай ступені недарэчна. Аднак самі маральныя прынцыпы — гэта абагульненне вопыту, вывад з вопыту. Калі ж іх спрабуюць паставіць **над** вопытам, абсалютызаваць, пабудаваць з іх сцяну, якая нібыта здольна беспамылкова аддзяліць дабро ад зла, праўду ад няпраўды, яны трацяць свой гуманістычны сэнс, ператвараюцца ў догму, веданне якой бескарысна, а спробы практычнага прымянення шкодныя.

Іменна так адбылося ў аповесці Васіля Быкава.

Пакуль Даніла Шпак есць крадком боб, бачачы, як адварочваецца, глытаючы галодную сліну, Сцёпка, пакуль той жа Даніла ідзе з канём Рослікам у начную цемру, каб выканаць загад Брытвіна дастаць узрыўчатку, мы ўжо можам разважаць аб складанасці сялянскага характару, рэалістычна адлюстраванай пісьменнікам. Але складанасць або супярэчлівасць характару таго ці іншага персанажа не мае зусім ніякага значэння, паколькі ў аповесці Быкава кожнаму загадзя падрыхтавана яго трывалае месца па той ці другі бок дэмаркацыйнай — паміж «злом» і «дабром» — сцяны. Даніла і Брытвін — там, Сцёпка і Маслакоў — тут. Прыхільнікі строга дазіраваных суадносін «станоўчага» і «адмоўнага» могуць быць спакойныя: «станоўчага» ў аповесці В. Быкава невымерна больш. Апрача Маслакова і Сцёпкі, унутрана супрацьстаяць Брытвіну і «харошыя, залатыя людзі», у якіх Маслакову з таварышамі аднойчы давялося адпачываць, і камбрыг Прэабражэнскі, і інспектар райана Ляховіч, і Міця. Мост, які належала знішчыць, быў знішчаны. І ворагаў пры гэтым загінула многа. І ў камісара героі і аўтар вераць безумоўна, як у вышэйшую справядлівасць. Але радавацца ўсяму гэтаму неяк не хочацца.

І вось чаму.

«Знаеш ты, разумнік, што такое вайна? — гаворыць Сцёпку Брытвін. — Спрэс рызыка. Рызыка людзьмі. Хто больш рызыкуе, той і пабяждае. А хто ў розныя там прынцыпы гуляе, той вунь дзе!» — і пры гэтым Брытвін паказаў на паляну, дзе віднелася свежая магіла Маслакова.

Паводле Брытвіна, вайна—справа беспрынцыпная.

Паводле Маслакова, вайна — справа сумлення.

Камбрыг Прэабражэнскі, які аддаў сябе ў рукі ворагаў, каб выратаваць жыццё дзіцяці; педагог Ляховіч, які не знайшоў у сабе сіл расстраляць здрадніка, таму што той у гэты час гуляў з двухгадовым сынком, але адмовіўся хітрасцю выратавацца ад шыбеніцы; падлетак Міця, які кінуўся на мост выручаць падстрэленага Росліка, хоць ведаў, што праз некалькі імгненняў начынены ўзрыўчаткай бітон узарвецца; Маслакоў, які не задумваючыся рызыкуе сабой для выканання задання, — усе яны, з пункту гледжання Сцёпкі, які, па ўсім відаць, падзяляе і аўтар, дзейнічаюць адзіна правільна, згодна свайму сумленню і прынцыпам высокай чалавечнасці, тады, як з пункту гледжання Брытвіна, іх паводзіны — суцэльнае глупства.

Але паспрабуем стаць над ацэнкамі і разважаннямі Брытвіна, часткова супярэчлівымі, часткова сапраўды шкурнымі. Паспрабуем пра таго ж Брытвіна вынесці меркаванне не з яго слоў, а з учынкаў. І тады выявяцца дзіўныя, на першы погляд, супярэчнасці. Брытвін гаворыць, што вайна — суцэльная рызыка людзьмі, што перамагае той, хто больш рызыкуе, але сам папярэджвае Маслакова ад неразумнай рызыкі, ад неабдуманых і паспешлівых дзеянняў. Наогул учынкі Брытвіна, у адрозненне ад учынкаў усіх персанажаў, якія яму супрацьстаяць, вылучаюцца прадуманасцю, уменнем прадбачыць вынікі.

Між іншым, дыялектыка супярэчлівага жывога характару і тут не ў сілах пераадолець аўтарскую канцэпцыю — безагаворачнае супрацьпастаўленне розуму, крытычнай здольнасці чалавека стыхійнаму і неўсвядомленаму пачуццю сумлення. Калі камбрыг Прэабражэнскі падымаецца з бульбоўніку, дзе хавалася жменька партызан, і ідзе здавацца фашыстам, ён дзейнічае так таму, што не можа бачыць, як з-за пакінутай ім у хаце гімнасцёркі ворагі расстрэльваюць дзяцей. Але думка аб тым, што, выдаючы сябе, ён тым самым выдае сваіх баявых таварышаў, — такая думка ў галаву яму не прыйшла. Не прыйшла ў галаву яму і іншая думка, якую Брытвін пазней сфармуляваў як пытанне, зададзенае Маслакову: «А калі б яны і яго ўзялі, і сям'ю не адпусцілі? Тады як?»

Брытвін праяўляе кемлівасць у малым (як лепш нарэзаць дзёрну для салдацкай магілы, як зручней і лягчэй несці каністру) і ў вялікім (імгненна скеміўшы, што для паспяховага ўзрыву моста лепш за ўсё выкарыстаць Міцю, які штодзень правозіць праз мост бітоны з малаком і якога ахова ведае). Загады Брытвіна разумныя і абгрунтаваныя, і ў аповесці іменна ён, Брытвін, з'яўляецца сілай, якая супрацьстаіць хаосу і выпадковасцям.

Бо што ж атрымліваецца: добры чалавек у Быкава ўвесь ва ўладзе сляпога выпадку, і ў сілу гэтага ён, па сутнасці, асуджаны, ён—ахвяра абставін, ахвяра сваіх пачуццяў. «Харошыя, залатыя людзі» выпадкова забылі схаваць камбрыгаўскую гімнасцёрку, і ворагі выпадкова яе знайшлі, а партызаны выпадкова здолелі схавацца, і толькі выпадкова немцы іх не выявілі, калі ўстаў і пайшоў здавацца камбрыг, і выпадкова потым не былі расстраляны з камбрыгам тыя, хто мыў яму гімнасцёрку і даваў прытулак. І ў гісторыі на мосце — той жа сумны ланцуг выпадковасцей: выпадковая смерць Маслакова, выпадковыя перашкоды ў выкананні добра задуманага і, здавалася, старанна распрацаванага брытвінскага плана: непрадбачаная затрымка павозкі перад мостам. Сцёпкава чарга з аўтамата, спалох Росліка, што ледзь не сарвалі ўсёй аперацыі. І толькі трапны снайперскі стрэл Брытвіна, які спыніў павозку з мінай якраз пасярэдзіне моста, паклаў канец пагібельным выпадковасцям.

Гэты стрэл — галоўны абвінавачы пункт у Сцёпкавым самасудзе над Брытвіным. «Падлюга!.. Падлюга ты! Паняў?» — не стрымліваючы сябе, кідае Сцёпка ў твар камандзіру. Ён прама ўскладае на Брытвіна адказнасць за Міцькаву гібель на мосце. І мы гатовы разам са Сцёпкам падзяліць яго гнеў, яго нянавісць, яго пагарду да Брытвіна. Таму што ў кожнай дробязі — у словах, жэстах Брытвіна, у тым, як думае ён пра вайну, пра людзей, як размаўляе са Сцёпкам, з Данілам, з Міцем, — праяўляюцца яго цынізм, яго амаральнасць. Гэта нейкая бяздушная частка жорсткага і бесчалавечнага механізму вайны.

Аднак у гэтым асабліва ярка адбілася супярэчнасць паміж праўдай жыцця і прадузятасцю аўтарскай задумы. Бо калі меркаваць пра Брытвіна не па тых эмоцыях, якія старанна выклікае і падтрымлівае ў нас аўтар, а па рэальным змесце яго дзеянняў, дык непазбежна ўзнікае пытанне: а ў чым уласна, віна гэтага чалавека? Хіба не ён устанавіў, што Міця даедзе да сярэдзіны моста, скіне бочку з узрыўчаткай і паспее ад'ехаць на бяспечную адлегласць, пакуль яна ўзарвецца? І хіба хтосьці персанальна вінаваты, што падзеі сталі развівацца інакш, што Міцю затрымалі перад мостам? Калі б Брытвін не страляў у Росліка, конь усё роўна загінуў бы, таму што бітоны былі прывязаны да калёс і скінуць міну не было каму. Але тады выбух адбыўся б ужо па той бок моста, ахвяра каня была б дарэмнай. Выходзіць, Брытвін зрабіў адзіна правільна. Ён зрабіў правільна, застаўшыся з Данілам на ўскрайку лесу і адпусціўшы Міцю аднаго, таму што яго ведалі паліцаі і толькі так можна было разлічваць на поспех аперацыі. Ён зрабіў правільна, імгненна прыняўшы рашэнне падстрэліць Росліка. Іншага шляху выканаць заданне не было.

Але чаму ж так? Чаму на вайне, калі верыць аповесці, бессэнсоўна і ахвярна гінуць харошыя, сумленныя, смелыя людзі, а перамагаюць Брытвіны? Чаму розум, цвярозы разлік, практычная мэтазгоднасць і абдуманасць дзеянняў — прэрэгатыва людзей, якія амаральна і безадказна распараджаюцца чужымі жыццямі? Ці не таму, што рэчаіснасць тых дзён, вайна, існуе ў аповесці В. Быкава сама па сабе, а маральная ідэя, якую сцвярджае пісьменнік учынкамі і лёсам сваіх герояў і згодна якой **любая** дзейснасць, **любы** практыцызм ёсць **абсалютнае зло,** тады як дабро нязменна звязана з пасіўнасцю і сузіральнасцю, — сама па сабе? Як быццам у герояў аповесці, партызан, якія ваююць з фашыстамі, толькі асабістыя маральныя прынцыпы і мэта іх толькі ў адным: выратаваць сваё цела або выратаваць душу. І няма быццам бы ў іх — у Сцёпкі і Брытвіна, Маслакова і Міці, Прэабражэнскага і Ляховіча, Данілы і ўсіх астатніх — агульнай і сапраўды вялікай мэты: перамагчы ворага, выратаваць ад гібелі і ганьбы родную зямлю. Пра гэту мэту аўтар, здаецца, прымусіў забыць сваіх герояў так моцна, што яны і на самай справе не толькі не гавораць аб ёй, але і не думаюць. А гэта ўжо няпраўда.

Нельга судзіць Брытвіна або Сцёпку ў святле абстрактнай маральнай ісціны. Суд можа быць толькі адзін — з пункту гледжання таго ўкладу, які ўнёс кожны ў справу перамогі над фашызмам, з пункту гледжання **рэальнай барацьбы за дабро з рэальным злом** гітлераўскага нашэсця, з пункту гледжання той вялікай гуманістычнай ідэі, неабходнасць сцверджання якой рабіла для савецкіх людзей мінулую вайну свяшчэннай і ў вышэйшым сэнсе справядлівай. Але пісьменнік, які ўжо не аднойчы заявіў сябе смелым і цвярозым даследчыкам жыцця, на гэты раз такога суда пазбег. Да жывога матэрыялу рэчаіснасці ён прыклаў мёртвую этычную схему, звязаўшы іх для вернасці абручом кальцавой кампазіцыі. Але адзінства не атрымалася і не магло атрымацца, а адбылася дэфармацыя жыццёвага матэрыялу ва ўгоду ілжывай, фальшывай ідэі.

«Хай едзе камісар!» — смела прыспешвае аўтар аповесці. Але нават зварот да такога высокага аўтарытэту наўрад ці зможа перакрэсліць адчуванне надуманасці канфлікту.

**«Литературная газета» ад 2 ліпеня 1969 г.**

Васіль Быкаў. «Круглянскі мост». Аповесць. Пераклаў з беларускай аўтар. Часопіс «Новый мир», № 3, 1969.

# СКАЗ ПРА ПОДЗВІГ НАРОДНЫ

«Партызанская тачанка».

**ПРА эпапею Беларусі-партызанкі створаны песні, паэмы, п'есы, дакументальныя кнігі, жывапісныя палотны, скульптуры, творы графікі. І гучыць у гэтай эпапеі не толькі голас мастакоў-прафесіяналаў, але і народных умельцаў.**

**Вось перад вамі работы з дрэва. З матэрыялу, які даў мастакам лес. Той самы лес, які быў надзейным сябрам партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны. Той самы лес, які сёння адорвае нас сваімі скарбамі.**

**Дрэва ў беларускіх умельцаў, можна сказаць, матэрыял спрадвечны. І ўмельства разьбы па дрэве на Беларусі спрадвечнае. Мабыць таму так пераканаўча перадалі ў шматлікіх сваіх творах беларускія разьбяры вобраз Беларусі, які вырастае з мноства іх работ, з мноства дэталяў партызанскага баявога жыцця і партызанскага быту.**

**Наўрад ці патрабуе мастацтвазнаўчых каментарыяў «Партызанская тачанка» К. Казёлкі. А колькі абаяльнасці ў яго «Баявых сябрах»! Гэта работы, створаныя ў розны час. Але паміж імі такая трывалая сувязь, што гэтыя дзве названыя яго работы разам з трэцяй — «Паранены воін і санітарка» — складаюць адмысловы трыпціх. І тэма яго — гераізм Беларусі-партызанкі, стойкасць савецкага чалавека ў выпрабаваннях.**

**Усе тры работы гучаць —як народная песня. Народная песня шліфуецца паступова, убіраючы ў сябе мастацкі вопыт, мастацкае чуццё цэлага народа. Так і ў разьбе Казёлкі — не толькі яго асабісты вопыт, але і вопыт папярэднікаў, творча асэнсаваны майстрам.**

**Так, работы К. Казёлкі прымушаюць думаць пра глыбокую народную аснову яго творчасці. І асабліва выразна, на мой погляд, гэта відаць у названых мной работах.**

**К. Казёлкам ствараецца своеасаблівы сказ пра подзвіг народны, пра той подзвіг, 25-годдзе якога мы святкуем у гэтыя дні.**

**Ф. ВАЛАДЗЬКО.**

«Баявыя сябры».

«Паранены воін і санітарка».

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# З ДНЯПРОЎСКІХ КРУЧ

*Споўнілася 50 гадоў украінскаму паэту Пятру Гарэцкаму, які жыве і працуе ў нас, у Мінску.*

*Сёлета ў выдавецтве «Беларусь» выйшаў зборнік вершаў П. Гарэцкага ў перакладзе на беларускую мову. Зборнік называецца «З дняпроўскіх круч».*

*З дняпроўскіх круч паэту добра відаць і яго родная Украіна і наша Беларусь. П. Гарэцкі шчыра, сардэчна піша пра жыццё нашага краю, пра яго працавітых і слаўных людзей, пра беларускія бары і дубровы, палеткі і мурожныя лугі.*

*Пятро Гарэцкі пераклаў на ўкраінскую мову шмат вершаў Янкі Купалы, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Антона Бялевіча, Міхася Калачынскага, Пятра Глебкі, Рыгора Няхая, Анатоля Вялюгіна, Пятра Прыходзькі і інш.*

*У паэта толькі поўдзень веку, ён у поўным росквіце творчых сіл. Пажадаем жа нашаму даўняму другу новых творчых перамог.*

Анатоль АСТРЭЙКА

# НАРАЧ

Пятро ГАРЭЦКІ

**Калі зірну на плёс азёрны,**
**Што рассцілаецца без краю,—**
**Маю душу ўспамін агорне,**
**Старога Рыльскага згадаю.**
**З кастром начлежніцкім,**
**з рыбалкай,**
**З грыбамі быў ён у хаўрусе.**
**О, як ён горача і палка**
**Любіў азёры Беларусі!**
**Бывала ў ціхую гадзіну**
**З любоўю Рыльскі прыгадае**
**І беларускую каліну,**
**І дуб разгалісты ля гаю,**
**І луг духмяны, свежы, росны,**
**І мох пад елкай перапрэлы,**
**І бераг Нарачы, дзе сосны**
**Прабілі неба, нібы стрэлы,**
**І песні звонкія, як вёсны,**
**І на чаўнах рыбацкіх вёслы,**
**І рыбаловаў пастарэлых,**
**І дружбакоў сваіх сардэчных...**
**Яго мы слухалі. Над рэчкай**
**Гарэў агеньчык. Ясным вокам**
**Свяціўся. Раніца рыкала.**
**А песня Нарачы глыбока**
**У нашы сэрцы западала.**
**А ён расказваў пра рыбалку,**
**З якою быў заўжды ў хаўрусе...**
**О, як любіў ён сэрцам палкім**
**Азёры, вёскі Беларусі!**

Пераклаў з украінскай
Антон БЯЛЕВІЧ

АРХІТЭКТУРА

# ЭКСПЕРЫМЕНТАТАРЫ

**ЗАЛА эксперыментальнай майстэрні навукова-даследчага інстытута Белгіпрасельбуда нагадвае вялізны мастацкі цэх. Калі заходзіш у памяшканне, застаўленае кульманамі, людзей заўважаеш не адразу. Толькі злева ля ўваходу схіліўся над чарцяжамі галоўны архітэктар майстэрні Георгій Уладзіміравіч Заборскі.**

**— І ўсё ж не тое, крыху не тое, — гаворыць ён сам сабе.— Анатоль! Прынясі, калі ласка, учарашні эскіз.**

**Малады канструктар Анатоль Кручок падае Георгію Уладзіміравічу чарцёж. Удвух яны доўга разглядаюць яго, абменьваюцца думкамі.**

**Работы шмат, а час не цярпіць. Гэты год асаблівы: для сямі калгасаў трэба зрабіць комплексныя праекты забудовы: жылых дамоў, дапаможных памяшканняў, культурна-бытавых цэнтраў. Задача складаная, сур'ёзная. Тут ёсць над чым падумаць, пакруціць галаву. Над вырашэннем задачы працуюць група планіроўкі і група аб'ёмнага планавання. Першая распрацоўвае агульны план, другая — непасрэдна праектуе будынкі.**

**Разам з Георгіем Уладзіміравічам працуюць такія вопытныя спецыялісты, як архітэктары Віктар Емяльянаў, Галіна Бяганская, канструктар Генадзь Бусловіч і больш маладыя — канструктары Леанід Сонкін, Анатоль Кручок і іншыя.**

**Эксперыменты — гэта першы практычны крок у заўтрашні дзень. Тое, што яшчэ ўчора было ўзорным, сёння здаецца адсталым. Праекты павінны апярэджваць і сённяшні дзень. Пры распрацоўцы праектаў улічваюцца і рысы народнасці, звычкі людзей, уласцівыя для той альбо іншай мясцовасці.**

**Архітэктары і канструктары майстэрні распрацавалі праект кватэры са сценамі-перагародкамі, якія можна рассоўваць, як шырму. Так, з двух пакояў можна зрабіць адзін вялікі на выпадак якой-небудзь гасціны. Адной з першых эксперыментальных забудоў стала сяліба калгаса «Прагрэс», што на Гродзеншчыне. Тут пабудавана многа дамоў з усімі выгодамі.**

**Паглядзець лепшае, што прапануюць архітэктары сённяшняй вёсцы, прыязджаюць да прагрэсаўцаў з усёй рэспублікі.**

**Госці з мядзельскага калгаса «Ленінскі шлях», пабачыўшы архітэктурныя навінкі, адразу ўнеслі карэктывы ў свае планы. Прыпынілі будаўніцтва Дома культуры, папрасілі архітэктараў дапамагчы ім. Эксперыментатары пабывалі ў калгасе і распрацавалі для мядзельцаў індывідуальны праект Дома культуры.**

**Кіраўнікі калгасаў і саўгасаў— жаданыя госці ў інстытуце. Часта выязджаюць у сяло і архітэктары.**

**Цяпер калектыў майстэрні распрацоўвае праект сельскага дзіцячага сада і пяціпавярховага жылога дома. Гэтыя праекты шмат у чым адрозніваюцца ад праектаў гарадскіх дзіцячых садоў і дамоў.**

**— Улетку рабочы дзень калгаснікаў доўгі, — гаворыць Георгій Уладзіміравіч. — Таму натуральна, што праектам дзіцячага сада прадугледжаны спальні, сталовыя, ванны, пакоі для абслугоўваючага персаналу і нават склепы для гародніны.**

**Анатоль КУЛЯШОЎ.**
Фота Ул. КРУКА.

— І ўсё ж не тое, крыху не тое...—кажа Г. Заборскі.

Арк. Маўзон

# Усяго адно жыццё

**Дзяржаўны рускі тэатр імя М. Горкага паставіў спектакль па маёй новай п'есе — «Усяго адно жыццё» (рэжысёр М. Сулімаў).**

**Мне думаецца, што ўрывак, які я прапаную, раскажа аб тым, што мяне хвалявала, як аўтара, чаму я не мог не напісаць гэтай п'есы. Апрача мінскага тэатра, п'есу ставяць Гомельскі і Магілёўскі абласныя тэатры.**

*Пакой Скарапада. Позняя ноч. Скарапад спіць. Званок, які паўтараецца некалькі разоў, будзіць яго. Ён устае, запальвае святло, ідзе да тэлефона, бярэ трубку, кладзе яе. Выходзіць. Вяртаецца з Корбутам.*

СКАРАПАД *(пазяхаючы)*. Ты? Гм...

КОРБУТ. Я ўвайду.

СКАРАПАД. Калі прыйшоў, вядома. Але, паміж іншым — ноч.

КОРБУТ. Так. Другая гадзіна.

СКАРАПАД. Дык якога ж ты чорта?

КОРБУТ *(не зняўшы паліто, садзіцца ў крэсла)*. Мне трэба з табой пагаварыць.

СКАРАПАД. П'яны?

КОРБУТ. П'яны.

СКАРАПАД. Прыйшоў бы заўтра.

КОРБУТ. І заўтра буду п'яны. Напэўна ўсё жыццё буду п'яны.

СКАРАПАД. Выключаць з прафсаюза. *(Закурвае, пазяхае)*. На вуліцы снег, так? То добра. Абрыдла гэтая слата. *(Зноў пазяхае)*. Выказвайся.

КОРБУТ. Я сур'ёзна... Магчыма ты гэтага не зразумееш, але я нікога, ніколі па-сапраўднаму яшчэ не любіў. Так — ніколі, нікога... І вось яна... Гэта дзівосная жанчына. Разумееш — Таня для мяне...

СКАРАПАД. Для гэтага мяне і падняў? Ноччу. Чорт...Ну, ну любіш, не можаш так — ажаніся і... Усё?

КОРБУТ. Не ўсё... Ён Нікановіч. Аляксандр Сяргеевіч Нікановіч.

СКАРАПАД. Хто?

КОРБУТ. Іваноў, ён жа Сідарэнка.

СКАРАПАД. Ну і што?

КОРБУТ. Ён яе брат... Брат Тані. Разумееш?!

СКАРАПАД. Што? Гэта...

КОРБУТ. Я сёння быў у іх. І даведаўся аб гэтым выпадкова. Яны нічога не падазраюць. Сказаць ім — я не мог. Пайшоў. Потым вярнуўся, стаяў ля яе дома... Пайшоў снег. Усё навокал стала бялюткім... Цень яе ў акне бачыў.

*Скарапад, не зводзячы вачэй з Корбута, дастае пачатую бутэльку каньяку, налівае яму чарку.*

СКАРАПАД. Трымай.

*Корбут выпівае. Скарапад зноў прыкурвае. Некаторы час ходзіць па пакоі, потым падыходзіць да Корбута.*

Ты яшчэ нікому не сказаў, што Іваноў — гэта...

КОРБУТ. Я ж табе кажу — тырчаў на вуліцы.

СКАРАПАД. Тады... тады слухай.

КОРБУТ. Слухаю.

СКАРАПАД *(не адразу)*. Няма Нікановіча. Не было. Ёсць — Іваноў.

КОРБУТ. Што?

СКАРАПАД. Ты вось што... Ты, скажы мне, калі ласка, што страціць дзяржава, ці так ужо будзе зняважана наша правасуддзе, калі гэты падлюга пойдзе пад суд як Іваноў? Здрадзіў, забіваў, ваяваў супроць нас Іваноў. Яго шукалі, як Іванова. Знайшлі як Іванова. Хто, апрача цябе ведае, што ён не Іваноў? Ніхто. Толькі ты адзін. Яго і карайце. Яшчэ не позна. Ты яшчэ можаш зрабіць усё...

КОРБУТ. Так... Яшчэ не позна! Я магу зрабіць усё... Ён сапраўды можа пайсці пад суд, як Іваноў...

СКАРАПАД. Так і зрабі...

КОРБУТ. Так і зрабіць?

СКАРАПАД. Так і зрабіць. Ніхто нічога не будзе ведаць...

КОРБУТ. Ніхто нічога не будзе ведаць...

СКАРАПАД. Апрача мяне. Я буду маўчаць... Што так глядзіш?

КОРБУТ. Слухаю.

СКАРАПАД. Забудзься, што ў цябе ў шафе мундзір з пагонамі. Я ведаю — службовае становішча. Усё гэта абавязвае. Але, паўтараю — ніхто, нічога не будзе ведаць. Ніхто. Ніколі. Урэшце, падумай пра Таню, пра старую. І пра сябе... Маўчыш?.. Ну што ж, калі мая парада табе не па душы, тады ідзі, раскажы ім усё... Ты ўвойдзеш у іх дом з цудоўным пасагам... Калі яны, вядома, пусцяць цябе пасля гэтага ў свой дом...

КОРБУТ. Ты думаеш?

СКАРАПАД. Аднойчы табе ўжо сказаў — чалавек па мадэлі тая ж жывёліна.

КОРБУТ. Сказаў.

СКАРАПАД. І калі яму чыняць боль...

КОРБУТ. Зразумеў.

СКАРАПАД. Вось і добра. *(Налівае сабе каньяк)*. Давай за тое, каб усё было добра. *(Далівае каньяк Корбуту)*.

КОРБУТ. Добра па-твойму?

СКАРАПАД. Па-твойму, па-мойму... Абы было добра. *(Выпівае, ставіць чарку на стол)*. Дарэчы, я на тваім месцы зараз падумаў бы, ці варта звязвацца з...

КОРБУТ. Ты пра што?

СКАРАПАД. Пра Таню.

КОРБУТ. Што? Ты зразумеў так, што я...

СКАРАПАД. Я зразумеў, як трэба.

*Паўза.*

КОРБУТ. Так... Памятаеш — ты неяк задумаўся: з чаго пачынаецца здрада? Дык вось — яна пачынаецца тады, калі чалавек пачынае думаць толькі пра сябе... Калі яму нікога, нічога апрача сябе — не шкада... Вось калі яна пачынаецца. Можа я гэта крыху прымітыўна, але — блізка да ісціны... Іваноў, праўдзівей Нікановіч, калі пайшоў на здраду, таксама думаў толькі пра сябе. Так, так. І вось, тое самае, ты, зараз, прапануеш мне... Так! Будзе зняважана правасуддзе. Ды і не ў правасуддзі справа! Зняважана справядлівасць, калі злачынца будзе пакараны пад мянушкай, за якую ён схаваўся. *(Пасля паўзы)*. Дзіўна. Ты заўважыў, што для выратавання сваёй скуры, бліжэй і раней за ўсё пад рукой аказваецца подласць.

СКАРАПАД. У скуры — жыццё.

КОРБУТ. Якая дзікасць... Тры гады з табой знаёмы, дружу, і не ведаў, што ты такое. І не будзь Іваноў — Нікановічам, я напэўна, так цябе і не раскусіў бы.

СКАРАПАД. Раскусіў. І што?

КОРБУТ. Даволі агідна.

СКАРАПАД. Агідна. Дурань. Божухна, колькі на нас, бедных, настаўнікаў, місіянераў, прапагандыстаў, агітататараў...

*Корбут ідзе да выхаду.*

Як друг табе кажу, падумай, Павел, падумай.

*Корбут выходзіць.*

Здрада. Дзівак. Дзе ўбачыў здраду? Каму я калі здрадзіў?! *(Званок)*. Напэўна нясе прысуд. Цікава — колькі атрымаю.

*Званок паўтараецца. Скарапад не спяшаючыся выходзіць і вяртаецца з Нінай. Ніна ў паліто, берэце. У руках у яе чамадан. Анямеўшы глядзіць на яе Скарапад.*

НІНА. Не чакаў?

СКАРАПАД. Увогуле... Не чакаў. Аніяк... Зараз?..

НІНА. Таму не адказаў на мае..

СКАРАПАД. Падпалкоўнік паехаў у камандзіроўку? Так?..

НІНА. Віктар, я пайшла ад яго... Больш мне ісці няма куды. Вось я і прыйшла да цябе. *(Ставіць чамадан)*. Разумееш—больш мне ісці няма куды. Апрача цябе ў мяне ўжо нікога няма. Апрача цябе я нікога не люблю. Таму я...

СКАРАПАД. Так, так... Я разумею. Ты... ты сядай.

НІНА *(садзіцца)*. Я не магла з ім больш заставацца. Не магла глядзець яму ў вочы. Адчуваць— раблюся яшчэ больш подлай, бруднай. Прадаю, ашукваю, здраджваю... Ты сабе не ўяўляеш, як гэта ўсё жахліва. Як страшна ляжаць у ложку з чалавекам, якога ты даўно ўжо не любіш, і якому ты абавязана адказваць ласкай і... Хлусня. Ва ўсім... Увесь час. Усё хлусня. І вось сёння я яму сказала праўду. Усю. Што не люблю яго. Што больш не магу, не хачу яму хлусіць, ашукваць яго. Прыкідвацца. Ён гэта выслухаў на дзіва спакойна, толькі ўвесь збялеў... А я... я пайшла... Зусім... Да цябе... Ты павінен, ты абавязаны мяне зразумець.

СКАРАПАД. Так, так. Вядома.

*Ніна ўстае, падыходзіць да Скарапада, абдымае яго.*

НІНА. Я ведала — зразумееш... І так мне зараз добра... Я ведаю. Яму будзе дрэнна... Але я... Інакш не магла.

СКАРАПАД. На вуліцы — снег?

НІНА. Мокры.

СКАРАПАД. Значыць, зноў усё ж слата... Так. *(Пасля паўзы)*. Нічога не скажаш — ночка.

НІНА. Што?

СКАРАПАД *(як мага пяшчотней)*. А .., як ты сабе ўяўляеш усё далейшае?

НІНА. З табой? Нам будзе добра. Вельмі. От жа ж і ты мне не раз гаварыў — табе са мной вельмі хараша.

СКАРАПАД. Так. Гаварыў. Вядома. Але... Як табе растлумачыць... Ці бачыш, я...

НІНА *(спалохана)*. Не. Не трэба... Бачу...

СКАРАПАД. Ніна, я...

НІНА. Не. *(Раптам пачынае смяяцца)*. Анекдот. Які смешны анекдот...

*Узяўшы чамадан, Ніна імкліва выходзіць. Скарапад бяжыць за ёй. Чуваць яго голас. «Ніна! Ніна! Ніна!» Потым Скарапад вяртаецца. Разгублена аглядваецца па баках.*

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**



 

